# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 26 (957) ГОД XIX БЕЛАСТОК 30 ЧЭРВЕНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.

## „БЕЛАСТОЦКАЯ ЗЯМЛЯ“ НА МОРЫ

Ужо два гады па марах і акіянах плавае вялікае судно **„Беластоцкая зямля“**. Яно горда носіць па свеце герб нашай роднай старонкі.

„Беластоцкая зямля“ нарадзілася пры супрацоўніцтве з балгарскай суднабудаўнічай прамысловасцю. Суднаверф у Варне пабудавала корпус гэтай плаваючай „Беластоцкай зямлі“, а познанскае прадпрыемства імя Цагельскага абсталявала яе магутным рухавіком.

„Беластоцкая зямля“ мае 182 метры даўжыні і амаль 20 метраў шырыні. Змяшчае адначасова 800 вагонаў вугалю. Ды не толькі вугалю. Судно перавозіць таксама руду, збожжа і матэрыялы для хімічнай прамысловасці. Найчасцей наведвае парты Францыі, Іспаніі, Італіі і Скандынавіі. У апошні час перасякае таксама акіян. Самае далёкае падарожжа прыпала на восень і зіму мінулага года. Тады „Беластоцкая зямля“ наведала порт Вікторыя ў Бразіліі і 1 снежня 1973 года ўпершыню ў сваім жыцці перасякла **экватар**, што ў жыцці судна лічыцца вельмі важнай падзеяй. Пасля „Беластоцкая зямля“ наведала яшчэ Венесуэлу, адкуль забрала ў свае склады руду.

Цяпер яна паплыла з польскім вуглем у ЗША, едучы назад, забярэ сыравіну для хімічных заводаў, або зноў паплыве у Венесуэлу за рудой.

Экіпаж „Беластоцкай зямлі“ працуе пад камандаваннем вопытнага капітана марскога плавання **Уладзіміра Вронскага.** Матросы ахвотна чытаюць пісьмы ад грамадзян Беласточчыны і будуць удзячны ўсім, хто захоча да іх напісаць па адрасу: PŻM, Szczecin m/s Ziemia Białostocka”.

**Яўгеній Грынявіцкі**
фота **В. Рудчыка**



Судно „Беластоцкая зямля“ ў Гданьскім порце.

З ПЕСНЯЙ НАСУСТРАЧ XXX-ГОДДЗЮ ПНР

**Сёстры Люба Гаўрылюк і Яўгіння Мінько з Беластока на сёлетнім фінальным аглядзе БГКТ занялі II месца ў катэгорыі сучаснай песні ў групе дуэтаў.**

**Фота А. Карпюка**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“

**Фестываль песні і дружбы ● Дырэктар школы ў Ляшуках ● Размова з прафесарам Міхасём Ларчанкам ● У аўтара „Духа Белавежы“ ● Літаратурная старонка ● Турнір у Чарэўках ● Беластоцкі кірмаш ● Хто слухае, хто стукае, хто пора ● Весткі з Белавежы, Семяноўкі, Гайнаўкі, Грэдалёў, Шудзялава, Крывяціч, Спічак, Саколкі і інш. ● Песня з рэпертуару Чэслава Немана „Калакольчык“.**

СУСТРЭЧЫ З ЗЕМЛЯКАМІ

## З РОДУ БУРАКОЎ

Заехалі мы пад старэнькую хатку **Андрэя Бурака** з вёскі Кошкі ў Бельскім павеце.

— Наша хата, — пазней, калі мы разгаварыліся, сказаў мне дзядзька Андрэй, — як мы самі, яшчэ з даваеннага часу, дык разам дажываем свой век.

Сапраўды, Андрэй Бурак пражыў ужо 72 гады, а яго жонка, бабулька Анна — аж 78.

Вось і яна паявілася на парозе гэтай хаты. Яшчэ шустрая, бадзёрая.

—Я думала, — адазвалася яна, — што гэта Валодзя...

— Яны з рэдакцыі, — паясніў муж. — Нашу сям'ю хочуць апісаць.

— Дык заходзьце ў хату, — папрасіла бабулька Анна.

Я ахвотна скарыстаў з гэтага запрашэння, бо хацелася паглядзець, як жывуць **бацькі трох афіцэраў** Людовага Войска Польскага, **адной настаўніцы** і **двух сялян.**

Жывуць яны звычайна, па-сялянску, як навучыліся ад сваіх бацькоў, як прывыклі жыць на працягу мінулых дзесяткаў гадоў. Дом задбаны, чысценькі, а найбольш месца займаюць у ім старамодныя кросны, на якіх бабулька Анна вырабляе саламяныя дарожкі.

— І вы гэта яшчэ сама?! — не змог я стрымаць свайго здзіўлення.

— А як жа ж жыць без работы! — адказала яна. — Няраз за дзень патраплю я яшчэ і тры такія саламянкі выткаць.

— А што нам рабіць? — дадае Андрэй Бурак. — Гаспадарку я ўжо зусім перадаў старэйшаму сыну, значыць **Міналаю.** Ён ад нас аддзяліўся і асобна пабудаваўся, мае прыгожыя будынкі і гаспадарыць па-сучаснаму, лепш за мяне, бо я на гэтых чатырох гектарах поля ніколі роскашы не меў, а ў яго ўсяго ўдосталь. Аддаў я гаспадарку яму без жалю, бо гэтых, — ён паказаў фатаграфіі за шклом, — зямля карміць не будзе, яны на дзяржаўным пайку.

І я прыглядзеўся да гэтых фатаграфій, што па старамоднаму звычаю віселі на сцяне, апраўленыя ў зашклёныя рамкі. З гэтых здымкаў глядзелі на мяне тры вайскоўцы: **марак, лётчык і, здаецца, артылерыст. Усе яны — афіцэры Людовага Войска Польскага, усе выпускнікі Бельскага беларускага ліцэя.**

Пад фатаграфіямі — таксама ў рамках і за шклом — нейкі дыплом, апячатаны залатымі літарамі. Прыглядаюся бліжэй і чытаю:

*„Грамадзянам Анне і Андрэю Буракам. За патрыятычнае і грамадзянскае выхоўванне сыноў на верных абаронцаў сацыялістычнай Радзімы —*

*шэф Галоўнага Палітычнага Упраўлення ЛВП*

*(—) Уладзімір Саўчук*

*Варшава, 13 кастрычніка 1972 года.“*

— О, тады сам міністр Нацыянальнай абароны, генерал Войцех Ярузельскі з намі гутарыў. Маці не змагла паехаць, бо якраз крыху прыхварэла, дык я з Валодзем выбраўся. Запрасілі на сустрэчу ў Міністэрства абароны бацькоў, у якіх найбольш сыноў у арміі. З цэлай Польшчы сабралося нас 28 сем'яў. З Беластоцкага ваяводства быў толькі я. Вазілі нас па музеях, частавалі, медалямі за заслугі для абароны краіны мяне і жонку ўзнагародзілі, і за дарогу заплацілі, як паноў якіх трактавалі. Вось да чаго мы дажыліся! — разгаварыўся дзядзька Андрэй.

— А як гэта здарылася, што ў вашай хаце завялося аж трое афіцэраў?

— Звычайна. Першы — пасля дзевяці класаў Бельскага ліцэя — пайшоў у афіцэрскую школу **Валодзя.** Цяпер ён у Гдыні. За ім — у вайсковую тэхнічную акадэмію — падаўся малодшы на два гады **Аляксандр.** Цяпер ён не толькі афіцэр, але і магістр інжынер. А вось гэты, — дзядзька Андрэй паказвае на здымак, — значыць, **Сярожа,** аднагодак з народнай уладай, таксама не захацеў быць горшым ад сваіх старэйшых братоў. Як

**(Працяг на стар. 4)**



*Уладзімір Бурак.*

 

## БГКТ ХРОНІКА

■ 12 чэрвеня паэт Алесь Барскі сустрэўся з чытачамі ў Зубачах і Чаромсе на Гайнаўшчыне.

■ 14 чэрвеня варшаўскі аддзел БГКТ на сваім пленарным пасяджэнні абмеркаваў справу святкавання 30-ай гадавіны нашай дзяржавы і працу аддзела за апошні перыяд часу. З інфармацыямі выступаў сакратар праўлення аддзела Віктар Швед. Дыскутанты гаварылі аб патрэбе сустрэч варшаўскага актыву з сялянамі Беласточчыны, аб арганізаванні аддзелам канцэртаў, на якіх выступалі б калектывы БГКТ, і аб некаторых іншых справах свайго аддзела. У пленуме прыняў удзел старшыня ГП Мікалай Самоцік.

■ 16 чэрвеня ў Літвінавічах адбыўся народны фэстын БГКТ, прысвечаны святкаванню 30-ай гадавіны Народнай Польшчы. Прынялі ў ім удзел сакратар павятовага камітэта ПАРП Веслаў Шышко, старшыня ГП Мікалай Самоцік, сакратар гміннага камітэта ПАРП у Нурцы Яўгень Шышко і начальнік гміны ў Нурцы Анатоль Данілюк, члены праўлення сямяціцкага аддзела і іншыя. З дакладамі выступілі сакратар сямяціцкага аддзела БГКТ Міхась Вішанка і начальнік гміны ў Нурцы Анатоль Данілюк. У мастацкай частцы выступілі: харавы калектыў, танцавальная і музычная групы гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Затым праведзены былі конкурсы СОП-у, супрацьалкагольны і „Мікрафон для ўсіх“. Арганізацыйны камітэт і суарганізатары добра выканалі свае заданні, за што належыцца ім шчырая падзяка. Суарганізатарамі фэстына былі сельгасгурток у Літвінавічах (старшыня Ільля Семянюк), прадукцыйная спулдзельня ў Клюковічах (старшыня — Уладзімір Баранчук), ГС-ы з Мілейчыц і Нурца, якія дасканала забяспечылі фэстын рознымі прадуктамі. (мх)

## ШТО НОВАГА?

### У Таварыстве польска-савецкай дружбы

10 чэрвеня г.г. праходзіў у Беластоку XII Ваяводскі з'езд Таварыства польска-савецкай дружбы.

У інтэрв'ю для „Нівы“ старшыня новага Ваяводскага праўлення ТППР, галоўны рэдактар „Газеты Беластоцкай“ **Марэк Юрковіч** падкрэсліў:

— Ваяводскі з'езд нашай арганізацыі, якая ў сучасны момант складаецца з 1 213 гурткоў і ахоплівае сваёй дзейнасцю ўсё наша ваяводства, праходзіў у асабліва ўрачыстай атмасферы юбілею 30-годдзя Народнай Польшчы і адначасова 30-годдзя дзейнасці ТППР на Беласточчыне. Хоць праца з'езду канцэнтравалася на ацэнцы дзейнасці ТППР за мінулыя чатыры гады і планах на будучыню, але быў ён аднačасова спробай глянуць на пройдзены нашай арганізацыяй 30-гадовы шлях, а прысутнасць у зале першых дзеячоў ТППР на Беласточчыне на чале з першым сакратаром ВП ТППР у 1944 годзе **В. Вэнцлікам** і яго ўспаміны з тых год мелі асаблівае значэнне.

Беластоцкая арганізацыя ТППР у апошнія гады больш шырока знаёміла грамадства нашага ваяводства з роляй, якую адыгрывае Савецкі Саюз у барацьбе дзвюх сістэм — цяпер у галіне ідэалогіі, гаспадаркі і навукі. На гэтым фоне мы імкнуліся паказаць савецкую ініцыятыву на міжнароднай арэне, эканамічны і навукова-даследчы патэнцыял, а таксама культурныя дасягненні Савецкага Саюза. У культурнай дзейнасці мы дабіліся таксама значных поспехаў: прадстаўніца Беласточчыны заняла I месца на Агульнапольскай алімпіядзе рускай мовы, добра паказалі сябе беластаччане на Агульнапольскім дэкламатарскім конкурсе твораў савецкіх пісьменнікаў у Кашаліне і на X фестывалі савецкай песні ў Зялёнай Гуры. Асаблівую ўвагу звяртала наша арганізацыя на развіццё прыгранічнага абмену Беласточчыны з суседнімі абласцямі і раёнамі Беларускай і Літоўскай ССР.

У прынятай на XII ваяводскім з'ездзе ТППР праграме дзейнасці на бліжэйшыя гады цэнтральнае месца адводзіцца пашырэнню сярод нашага грамадства прыкладаў маральнай перавагі сацыялізму над капіталізмам, якая з'яўляецца гарантыяй пераможнага развіцця сацыялістычных краін на чале з Савецкім Саюзам, папулярызацыі дасягненняў СССР у творчым выкарыстанні навукі і тэхнікі для пабудовы камунізму, а таксама ўмацоўванню нашых звенняў у асноўных маладзёжных асяроддзях Беласточчыны. У верасні гэтага года адбудзецца ў Беластоку спатканне польскай і савецкай моладзі, у якім прыме ўдзел каля 700 дзяўчат і юнакоў з усіх рэспублік СССР і дзесяткі соцень нашай моладзі. Гэтая велічная ўрачыстасць належыць да ліку цэнтральных мерапрыемстваў у святкаванні 30-годдзя Народнай Польшчы, і правядзенне яе іменна ў Беластоку ярка сведчыць аб дасягненнях нашага ваяводства ў справе пашырэння і ўмацавання польска-савецкай дружбы.

Інтэрв'ю правёў **М. Гайдук**

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**



*Так выглядаў Мінск пасля вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (ліпень, 1944).*

## Вызваленне Мінска

**30** гадоў таму назад, у спякотны дзень — 3 ліпеня, Мінск быў вызвалены ад фашысцкіх акупантаў. І сёння ў гэты дзень у рознаколерным святочным убранні, у яркіх агнях ілюмінацый мінчане, а разам з імі ўвесь беларускі народ, урачыста святкуюць 30-годдзе свайго вызвалення ад фашысцкага рабства.

Мы ж, франтавікі, — удзельнікі аперацыі „Баграціён“, міжвольна ўспамінаем, як тады ішлі па спаленай ворагам зямлі, вызваляючы родную Беларусь.

23 і 24 чэрвеня памятнага 1944 года на шырачэзнай 500-кіламетровай плошчы — ад Полацка да Мозыра — узняліся войскі I-га Прыбалтыйскага, 3-га, 2-га і 1-га Беларускіх франтоў, пры дапамозе народных мсціўцаў — беларускіх партызан савецкія воіны пайшлі на штурм „непрыступнай“ варожай абароны „Усходняга вала“. У першыя ж дні „Усходні вал“ быў прарваны на ўсю яго глыбіню і, праследуючы адступаючага праціўніка, савецкія войскі разгарнулі наступленне да ракі Беразіны — да другога рубяжа абароны.

29 і 30 чэрвеня савецкія войскі паспяхова фарсіравалі Беразіну, штурмам авалодалі добра ўмацаванымі гарадамі — Барысавам і Бабруйскам. Пасля гэтага войскі 1-га і 3-га Беларускіх франтоў, пераадольваючы ўпартае супраціўленне гітлераўцаў, імкліва пайшлі на Мінск.

3 ліпеня, калі ў ранішнім небе яшчэ мігацелі зоркі, на паўночна-ўсходнюю ўскраіну Мінска ўварваліся перадавыя атрады 5-ай гвардзейскай танкавай арміі маршала бранетанкавых войск Ратмістрава, у жорсткіх баях пачалі яны прабівацца да цэнтра горада.

Так жа храбра, знішчаючы на сваім шляху ворага, уляцелі ў Мінск з паўднёвага ўсходу танкі перадавых груп 2-га гвардзейскага танкавага корпуса генерал-маёра Бурдзейнага, а ўслед за імі — пяхота галоўных часцей 31-ай арміі генерал-лейтэнанта Глаголева. У поўдзень, прарваўшы паўднёвую абарону горада, уварваліся ў Мінск і часці 1-га гвардзейскага танкавага корпуса генерал-маёра Панава.

Нязмерна вялікай была наша радасць. Але мёртвыя папялішчы, руіны, чорныя выпаленыя вокны напоўуцалеўшых сцен ды яшчэ канцэнтрацыйныя лагеры, па-турэмнаму абгароджаныя калючым дротам, а побач з імі даўжэзныя, хапаючыя за душу пагоркі агульных магіл, у якіх пакоіліся дзесяткі тысяч замучаных у засценках гестапа і расстраляных савецкіх людзей, — страш-

(Працяг на стар. 4)



*Ленінскі праспект — галоўная магістраль горада (май, 1974).*

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 30.VI.** 7.30 Kurs Rol. 8.15 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdrowie. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Ex libris. 10.35 Antena. 10.50 Piosenka dla Ciebie. 11.35 Radar. 11.50 Estrada Poetycka. 12.05 Dziennik. 12.25 Przemysł rolnictwu. 12.40 Zapisane w pamięci. 13.20 Nie tylko dla pań. 13.50 Dla dzieci. 14.20 Czarny kot — film fab. węg. 15.30 Los. Toto — Lot. 15.50 Piłk. Mistrz. Świata (II runda) finały. 17.50 Przyjąć czy odrzucić. 18.40 Pr. balet. 18.55 Refleksje ob. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Opole 74” — Mikrofon i Ekran. 22.35 Sport.

**Poniedziałek 1.VII.** 16.10 Pr. dnia. 16.15 Oferty. 16.30 Dziennik. 16.40 Echo stad. 17.05 Teleferie. 18.15 Warszawskie perspektywy. 18.30 J. S. Bach — Fantazja chromatyczna. 18.45 Kr. Warsz. i Maz. 19.00 Nauka polska w XXX-leciu. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: J. Iwaszkiewicz — Sława i chwała. 21.55 Minione 3 lata — film dok. cz. I. 22.25 Dziennik. 22.40 Śpiewa H. Rumowska.

**Wtorek 2.VII.** 9.00 Poranek Tel. Najmłodszych. 10.00 Józef Balsamo — film franc. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Finał IX Olimpiady Wiedzy Społeczno-Polit. ZSMW. 17.35 Szczecin — rok 1945. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Eureka. 19.10 Przyp., radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Józef Balsamo — film franc. 21.15 Sport. 21.20 Interstudio. 21.50 Co kto lubi — pr. rozr. 22.45 Dziennik.

**Środa 3.VII.** 9.25 Mat. w szkole. 10.00 Czarodziej Glinka — film fab. radz. 11.30 Mat. w szkole 15.30 Pr. dnia. 15.35 Inf., Tow., Prop. 15.50 Piłk. Mistrz. Świata. 17.40 Los. Mał. Lot. 17.50 Kr. Warsz. i Maz. 18.05 Zmagania z Bałtykiem. 18.30 Dziennik. 19.10 Dobranoc. 19.20 Piłk. Mistrz. Świata. 21.20 Pożegnanie weterana — film dok. 21.45 Dziennik. 22.00 Przegl. Piłk. Mistrz. Świata.

**Czwartek 4.VII.** 7.25 Powtórz. przegl. Piłk. Mistrz. Świata (II runda). 9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.00 Film fab. 10.50 Mat. w szkole. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Wiem wszystko — teleturniej. 17.05 Teleferie. 18.15 Kr. Warsz. i Maz. 18.35 Polska w świecie. 19.00 Test — Słow. Ekonom. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Film. fab. 21.10 Sport. 21.20 Czym żyje świat. 21.50 Czworo w przedziale. W. Awerczenko. 22.20 Dziennik. 22.35 Inf., Tow., Prop.

**Piątek 5.VII.** 10.00 Obrońca życia — film fab. węg. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Najlepszy z najlepszych — film dok. 17.25 Turyst. i wyp. 17.50 Studio Zlotowe Tel. Mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Dialogi historyczne — Lublin 44. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Zaśpiewajmy to jeszcze raz. 20.50 Panorama. 21.30 Pr. publ. kult. 23.30 Dziennik.

**Sobota 6.VII.** 9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.00 Posag księżniczki Ralu — film fab. rum. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Pr. I prop. 15.15 Nie tylko dla pań. 15.50 Piłk. Mistrz. Świata. Mecz o 3 i 4 miejsce. 16.45 Dziennik. 18.05 Reportaż. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Koncert estradowy z okazji XXV-lecia Nowej Huty. 21.35 Dziennik. 21.55 Sport. 22.25 Posag księżniczki Ralu — film fab. rum.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 28.VI** — 17.40 Film fab. 19.30 Koncert („Złoty Orfeusz”).

**Sobota, 29.VI** — 7.00 Pr. dnia. 15.30 Film dokumentalny. 17.30 Koncert finałowy festiwalu „Białe Noce”. 19.00 Czas. 19.30 c.d. koncertu B. N. 20.30 Sport. 21.00 Reportaż z Chatyni.

**Niedziela, 30.VI** — 7.00 Pr. dnia. 9.30 Spektakl TV. 12.10 Koncert. 12.50 Film naukowo-pop. 14.50 Pokazy na stadionie „Dynamo”. 17.55 TV teatr miniatur. 19.30 Transmisja z mistrz. świata w piłce nożnej. 21.15 Reportaż z uroczystego winszowania weteranów Wojny Ojczyźnianej.

## КІНО

**Białowieża** Kaprysy Marii — fran. 2—3. Przygody Robinsona Cruzoe — radz. 4—5. Wykryć szpiega — radz. 6—7.

**Czeremcha** Wakacje we czworo — włos. 2—3. Gniewna podróż — buł. 6—7.

**Czyże** Góry, rzeki, ludzie — pol. Mordercy w imieniu prawa — fran. 3—7.

**Dubicze Cerkiewne** Kes — ang. Na rabunek — radz. 3—7.

**Gródek** Chłopi — pol. I i II cz. 3—7.

**Kleszczele** Front wyzwolenia — pol. 2—3. Pierścień — pol. 4—5. Pierwsze dni — pol. 6—7.

**Michałowo** Dramat zazdrości — włos. 2—3. Lekcja odwagi — czes. 4—5. Mocne uderzenie — pol. 6—7.

**Mielnik** Przygody Tomka Sawyera — rum. 2—3. Tropiciel śladów — rum. 4—5. Ogniomistrz Kaleń — pol. 6—7.

**Milejczyce** Lala — włos. 2—3. Pippi w kraju Taka — Tuka — szwedz. 4—5. Czyste ręce — rum. 6—7.

**Narew** Nareszcie poniedziałek — węg. Raport. 36 — kor. 3—7.

**Narewka** Śmic, smac, smoc — fran. Telegram — radz. 3—7.

**Nurzec** Śmierć Indianina — rum. 2—3. Podróże z Jakubem — węg. 4—5. Monolog — radz. 6—7.

**Orla** Godzina szczytu — pol. Wesele — pol. 3—7.

**Rajsk** Łobuz — fran. Białe słońce pustyni — radz. 3—7.

B.Z.Graf. zam. 1745 0-4



 




## Пра „Каласы пад сярпом тваім" Караткевіча

Кракаўскае „Жыцё літэрацке" ад 2 чэрвеня г.г. публікуе артыкул Фелікса Фарнальчыка „Польска-беларуская эпапея Караткевіча".

Фарнальчык піша пра вядомы раман Уладзіміра Караткевіча „Каласы пад сярпом тваім".

У першых радках артыкула адзначаецца:

„Каласы пад сярпом тваім" з'яўляецца адным з выдатнейшых гістарычных раманаў у нашых усходніх суседзяў, асабліва важным для нас з увагі на месца, якое ў ім адведзена польскім справам у перыяд перад Студзеньскім паўстаннем 1863 года. Уладзіміра Караткевіча нездарма называюць „беларускім Сянкевічам", бо гэту дылогію Караткевіча можна параўноўваць з „Трылогіяй", таксама і з „Панам Тадэвушам", і з „Аннай Карэнінай", і з іншымі такога роду вялікімі эпічнымі панарамамі".

Далей Фарнальчык заўважае, што Караткевіч у сваім рамане ахоплівае вялікі шмат гістарычнага часу, саракавыя і пяцідзесятыя гады мінулага стагоддзя. Абапіраецца ён на гістарычныя крыніцы, а таксама на вусныя паданні, песні ды быліны даўняй Беларусі. Свядома звяртаючыся да народных легенд, Караткевіч уводзіць на старонкі сваёй эпапеі герояў сапраўдных і выдуманых, падзеі прыгодніцкія або нават і фантастычныя. Караткевіча ўражлівасць на колеры і гукі, жывапіс і музыку, у спалучэнні з выдатным літаратурным талентам, прынесла запамінальныя вобразы, незвычайную прозу!

Далей Фарнальчык цікава пераказвае сюжэт „Каласоў пад сярпом тваім" і звяртае ўвагу на своеасаблівую „незакончанасць" гэтага рамана, у якім нічога не даведзена да канца, да вырашэння. Гэта знамянальна! Караткевіч з'яўляецца шчырым пісьменнікам, указвае на галоўныя прычыны няўдач ды слабасцяў паўстання. Прытым з непаўторным майстэрствам паказвае настроі і побыт тагачаснай грамадскасці, яе звычаі, занятки і норавы. Зрабіў гэта зграбна і займальна.

Фарнальчык запрыкмеціў, што Караткевіч з улюбёнасцю апісвае вочы, іх колер, позіркі, — апісвае рукі, бо рукі расказваюць аб чалавеку столькі ж, што і вочы...

У заканчэнні артыкула, які займае тры чвэрці старонкі, чытаем наступнае:

„Вядома, у рамане гэтым у значнай меры ідзе гутарка і пра нашы, польскія справы, бачаныя, праўда, дапытлівым і мудрым суседам. Улічвае ён перш за ўсё тое, што з'яўляецца яму самым блізкім, ды як жа шмат у ягоным бачанні падрабязнасцяў, якіх мы сабе не ўяўлялі. А калі дадаць, што гэта выдатны літаратурны твор, дык будзе яшчэ гэта адным аргументам за мэтазгоднасць паказу яго ў польскім перакладзе".

**Сакрат Яновіч**

ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „Ніву"!



*Урачыстая прысяга моладзі.*



*Выступае хор з Орлі.*

# ФЭСТЫН У ОРЛІ

З нагоды свята пажарнікаў у Орлі Бельскага павету адбыўся фэстын. Арганізавала яго Ваяводскае праўленне добраахвотных пажарных каманд і Галоўнае праўленне БГКТ.

У час фэстына былі такія ўрачыстыя моманты, як прысяга моладзі, ушанаванне памяці загінуўшых у час II сусветнай вайны, сустрэча з гайнаўскімі і бельскімі пажарнікамі.

На заканчэнне адбыўся канцэрт беларускіх мастацкіх калектываў з Орлі, Беластока, Бельска і Плёсак, а таксама спаборніцтвы футбольных каманд і народнае гулянне.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*Гарцэры трымалі варту ля магілаў загінуўшых удзельнікаў II сусветнай вайны.*

# У НАВАСАДАХ ПРЫЕМНА

Клуб „Рух" у Навасадах — адзін з лепшых у Гайнаўскім павеце. Супольным гаспадаром яго з'яўляецца моладзь. Яна прыходзіць сюды вечарам, каб паглядзець кінафільм (прыязджае сюды аб'язное кіно) або тэлевізар. Пасля агляду людзі часта застаюцца тут, каб у „сваім кругу" падыскутаваць над тым ці іншым кінафільмам, пастаноўкай, кніжкай.

Ініцыятарамі клубных мерапрыемстваў з'яўляецца перш за ўсё Ірэна Балтрамюк (клубны кіраўнік) і Мікалай Трашчотка (старшыня мясцовага гуртка ЗСМВ). Асабліва суботнімі і святочнымі вечарамі ў клубе поўна моладзі, бо якраз у гэтыя дні адбываюцца танцавальныя вечарыны, спалучаныя з конкурсамі і згадуй-згадуляй.

Мясцовая моладзь любіць паспяваць. У зімовыя і ранневясеннія месяцы ў клубе збіраецца на рэпетыцыі самадзейны гурток. Кіруе ім Марыя Ляшчынская. Ставілі яны ў пачатку гэтага года п'есу „Такія сабе клопаты", выступалі з гумарыстычнымі сцэнкамі.

Навасадскі клуб часта наведвае тутэйшы ўраджэнец, а цяпер пастаянны жыхар Гайнаўкі — мастак Янка Салаванюк. Ён выступае з лекцыямі па гісторыі старажытнага, візантыйскага, рускага, гатыцкага жывапісу. Расказанае папаўняе каляровымі дыяфільмамі. Усе яго лекцыі карыстаюцца вялікім поспехам і зацікаўленнем у тутэйшых жыхароў. Цікавымі і займальнымі бываюць таксама сустрэчы з удзельнікамі другой сусветнай вайны, з раднымі, журналістамі (у тым ліку з журналістамі тыднёвіка „Ніва"), пісьменнікамі (наведаў іх аўтар кніг пра апошнюю вайну А. Амільяновіч).

Наведвальнікі клуба з Навасад не толькі „адседжваюцца" за столікамі пры шашках ці шахматах. У красавіку гэтага года супольна са старэйшымі жыхарамі вёскі моладзь наладзіла дарогу на адрэзку Дубінская Ферма — Рэпіска. Паабапал яе пасадзілі маладыя дрэўцы. У клубе знаходзіцца бібліятэчны пункт. Карыстаецца з яго 80 асоб. Такім чынам, кніжка наблізілася да чытача, які дагэтуль быў вымушаны ездзіць або хадзіць за кніжкамі ў бібліятэку ў суседнюю вёску Дубіны. (ця)




## КОНСКІМ ВОЛАСАМ

У яго заўсёды добрая парода свіней. Добра яны ядуць, добра растуць і хутка правяцца. Але хто ў яго купіў парасят, ніколі не дагадаваўся свіней. Нават не дагадаваўся ніколі падсвінка. І не здагадваўся, чаму.

— Гаспадыні ў вас дрэнныя, не ўмеюць гадаваць свіней, — падкрэсліваў той гаспадар здольнасці сваёй жонкі.

Але ўрэшце выкрылася прычына, чаму не шанцуе нікому, хто купіў ад яго парасят. Прыпадкова ў зваранай каркавіне тыя, што куплялі ў яго парасят, знайшлі конскі волас. І тады здагадаліся, чаму не папраўляліся, не раслі, а проста марнелі падсвінкі, якіх хацелі яны адкормліваць.

Гэты чалавек перад продажам парасят аднавяскоўцам абвязваў шыю конскім воласам так, каб не было гэтага відаць. Парасяты падрасталі, і волас сціскаў ім шыю. Яны марнелі, не елі, мучыліся. А чалавек быў задаволены, што толькі ў яго свінні растуць.

**М. Сваяк**




## Нашаніўская пара

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА VI

**Крышталізацыя пачуццяў.** Апрача патрыятычных пачуццяў, аб якіх мы ўжо гаварылі, у Багдановіча скрышталізаваліся эмоцыі грамадскія і маральныя. У чым спецыфіка гэтых эмоцый і адчуванняў паэта? Чым Багдановіч адрозніваўся ад іншых беларускіх пісьменнікаў і вогуле ад грамаднай большасці людзей? Бадай што ў кожным чалавеку знаходзіцца элемент эгаізму, карысталюб'я. Гэты элемент і акрэслівае імкненне чалавека да ўласнай маёмасці, уласнай сям'і, уласнай кватэры. Такі эгаізм з'яўляецца неаддзельнай часткай амаль кожнага чалавека і таму не выклікае ў нас асуджэння. Ці быў ён у Багдановіча? Багдановіч быў нармальным чалавекам і таму марыў і аб каханні, і аб сям'і, і аб кватэры, і аб матэрыяльным забеспячэнні жыцця. Аднак Багдановіч лічыў гэта ўсё нерэальным і немагчымым. Ведаў, што памрэ. Ведаў, што не можа жыць для сябе, рашыў жыць для іншых. Ці гэты рамантычна-містычны прынцып вынікаў выключна з безнадзейнага стану здароўя паэта? Не. Мабыць, перш за ўсё з прыроджанага альтруізму і з сістэмы выхавання. Багдановіч выхоўваўся на рускай і еўрапейскіх літаратурах. Быў Максімам-кніжнікам. Філасофскі роздум над жыццём старажытных пісьменнікаў, высокія ідэалы рамантычнай літаратуры, глыбокае спачуванне пісьменнікаў-рэалістаў беднаму малому чалавеку, захапленне імпрэсіяністаў бязмежнасцю прыроды — усё гэта вылілася ў сэрцы Багдановіча ў вялікую крыніцу любві чалавека і яго сусветнай айчыны. Багдановіч быў інтэрнацыяналістам. Лічыў, што ёсць адна агульначалавечая культура і адно агульначалавечае хамства. Па думцы паэта, паасобныя народы ствараюць версіі культуры — часткі культуры агульначалавечай. Спецыфічнай рысай жыцця Багдановіча было тое, што кожны яго тэарэтычны вывад цягнуў за сабой яго практычнае дзеянне. Багдановіч не быў паэтам, які, замкнуўшыся ў вежу са слановай косці, піша людзям рэцэпты на шчасце. Паэт-грамадзянін працавіта, па-сялянску ўзнімаў беларускую цаліну.

І так ні рамантызм, ні мадэрнізм, ні адлеглая старажытная літаратура не адводзілі, а набліжалі Багдановіча да жыцця.

Другім фактарам, які спрыяў крышталізацыі грамадскіх і этычных поглядаў Багдановіча, была рэвалюцыя 1905 года. Калі яна пачалася, Багдановічу было 15 год. Аб удзеле Багдановіча-вучня ў наіўным анархістычным руху мы ўжо гаварылі і не будзем да яго вяртацца. Гаворачы аб рэвалюцыі 1905 года, маем на ўвазе шырэйшы аспект справы. Рэвалюцыя адрадзіла надзею. Нягледзячы на тое, што не закончылася ўдачай, рэвалюцыя падкапала фундамент старога візантыйскага манументалізму, які ўвасабляўся ў царскай сістэме. Дзякуючы рэвалюцыі ўгрунтавалася перакананне, што няма нічога вечнага, што старое павінна памерці, што адзінства імперыі гэта толькі пустое слова, што кожны народ мае свае мэты, што прыгнечаны чалавек імкнецца да вызвалення, што адна з найбольш русіфікаваных нацый — Беларусь прабуджаецца да нацыянальнага жыцця.

Усё гэта ўспрыняў сваёй інтуіцыяй Багдановіч. Стаў ён беларускім разначынцам-дэмакратам. Рашыў аддаць усе свае сілы для далёкай айчыны — Беларусі. Шукаючы фактараў, якія спрыялі крышталізацыі грамадскіх поглядаў Багдановіча, нельга абыйсці і беларускай грамадскай рэчаіснасці. Сутыкнуўся Багдановіч з ёю ў 1911 годзе, але ведаў ужо раней. Ведаў з рускай літаратуры, ведаў з беларускіх песень і казак. Аднак галоўную ролю ў працэсе азнаямлення Багдановіча з жыццём Беларусі адыграла „Наша ніва". Перыёдык гэты быў люстрам беларускай сялянскай нядолі. Грамадная большасць артыкулаў „Нашай нівы" была прысвечана жыццю беларускай вёскі. Аб гэтым жыцці гаварылі амаль усе вершы і апавяданні, змешчаныя ў „Нашай ніве". Тон гэтых публікацый быў наогул элегійны. Сэрца хворага Багдановіча было адкрыта на чалавечы боль. Цемра, забітасць, нядоля роднага краю выклікалі ў паэта глыбокія спачуванні. Слабы і бясільны ў адносінах да сваёй бяды, чуў у сябе дастаткова сілы для барацьбы з усім беларускім горам, з нацыянальнай няволяй, з матэрыяльным убоствам, з маральным упадкам. Можна гэта назваць наіўным донкіхоцтвам, але лепш было б назваць прыгожым, дэмакратычным грамадзянскім парывам.

# З РОДУ БУРАКОЎ

(Працяг са стар. 1)
толькі здаў матуру ў Бельскім беларускім ліцэі, дык адразу падаўся ў афіцэрскую школу. Цяпер ён ужо капітан, служыць на Шлёнску.

— Як вы мяркуеце, — запытаў я дзядзьку Андрэя, — кім былі б вашы дзеці, каб у нашай краіне не было бясплатных школ?

— Кім жа маглі б быць? У пастухі, у батракі, служанкі падаліся б, бо тыя 4,30 га, што я меў, як змог бы падзяліць на шасцярых?

Аднаго з роду Буракоў, **камандара падпаручніка** Ваенна-марскога флоту ПНР Уладзіміра Бурака ўдалося мне наведаць у Гдыні. Гэта высокаадукаваны спецыяліст па тэхнічных справах, асабліва ў галіне марской авіяцыі. Пры тым з яго вельмі мілы і скромны чалавек. Разам з жонкай **Зінкай**, таксама нашай зямлячкай з надбужанскай вёскі **Аслова** ў Сямяціцкім павеце, і радавітай ужо гдынчанкай, 15-гадовай дачушкай Алінкай, займае невялікую кватэру непадалёку ад мора. Аднак у параўнанні з бацькоўскай хатай у Кошках — гэта ўжо зусім іншы свет.

— Як мне жывецца? Не наракаю. Зарабляю нядрэнна, жонка таксама працуе, дачка ўжо ў ліцэй запісалася. Дык чаго болей нам трэба?

Гуляем па прыгожай гдынскай набярэжнай. Марскія грэбні хваль разбіваюцца аб жалезабетонныя стаўбы і туманамі кропляў распырскваюцца ў паветры. Раптам Уладзімір Бурак усведамляе сабе, што за ім ужо 20 гадоў адказнай службы ў войску, 20 гадоў на стражы нашай марской граніцы і адначасова 20 гадоў партыйнай дзейнасці. Віншую яго.

— Я тут не адзін з нашай Беласточчыны, — гаворыць камандар падпаручнік. — Многія іншыя нашы землякі таксама звязалі свой лёс з морам. Для прыкладу, выкладчыкамі і самастойнымі навуковымі работнікамі вышэйшага ваенна-марскога вучылішча ў Гдыні з'яўляюцца дацэнты **Канстанцін Цудны** і **Ежы Гнеўшэў, Васіль Баранаў** — капітан марскога плавання, займаецца рыбалоўляй на далёкіх марах, доўгі час служыў на моры **Яўгеній Главацкі.**

Усім ім з нагоды Дзён мора жадаем спрыяльных вятроў у жыцці, а перад бацькамі, такімі як Анна і Андрэй Буракі з Кошак, з пашанай б'ем паклон.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара


*Маці трох афіцэраў...*

## ВАРТА ДАПАМАГЧЫ!

Гурток ЛЗС у Дубінах каля Гайнаўкі ў гэтым годзе адзначае 25-годдзе сваёй дзейнасці.

У нашым сельскім спорце няшмат ёсць гурткоў з такімі багатымі дасягненнямі, як дубінаўскі ЛЗС. Вось хоць бы некалькі фактаў з апошніх год. У конкурсе „Амега“ на найлепшы гурток ЛЗС у павеце і краіне ў 1972 годзе Дубіны занялі першае месца ў павеце, таксама ў наступным 1973 годзе імі ж быў здабыты кубак і першае месца ў павеце. Дзявочая каманда гуртка спецыялізуецца ў настольным тэнісе і заняла II і III месцы на Гайнаўшчыне. Крыстына Ярмоц у мінулым годзе заняла другое месца ў павеце па шахматах. Мужчынская каманда гуртка ў мінулым годзе прыняла ўдзел у футбольных розыгрышах на Цэнтральных дажынках у Беластоку. Словам, 35-асабовы дубінаўскі гурток ЛЗС, якім кіруе старшыня Ян Вошчанка, мае немалыя дасягненні. Але як не дзіўна, гэты найлепшы ў Гайнаўскім павеце гурток не мае свайго стадыёна! Ці ў ваколіцах Дубін няма кавалачка няўдобіцы, які б падыходзіў для гэтага? А як жа ж, ёсць! Пры дарозе на Пасталова прасціраецца значны кавалак пусткі, дзе ніхто не арэ і не сее, бо надта ж слабая зямля. І хоць валяюцца там сціrты гнілой саломы ды сцелецца быльнёг, уладальнік гэтай „нерухомасці“ — гайнаўская спулдзельня „Лес“ не хоча адступіць хоць бы невялікую частку яе дубінскім спартсменам. Не памагаюць просьбы ў гміне ў Дубінах, нічога не хоча дапамагчы і Павятовае ўпраўленне ў Гайнаўцы. А актыўныя і ахвочыя да працы спартсмены хацелі б адзначыць 25-годдзе свайго гуртка пабудовай стадыёна, і для гэтага яны не пашкадуюць сваёй працы. (мг)

## Як жа ж без вады?

У 1962 годзе пырснула ў вёсачцы Ажыннік, што ляжыць у глыбі Супрасльскіх лясоў, доўгачаканая вада з глыбіннай студні, якую пабудаваў аддзел камунальнай гаспадаркі Прэзідыума ВРН у Беластоку. Але радасць была кароткая — ваду пампаваць трэба ўручную, а помпа раз-пораз псуецца. Куды толькі не пісалі і якіх парогаў не абівалі ажыннікаўцы, каб неяк аблегчыць ім здабыццё вады, бо напампаваць вядзерца — трэба з паўгадзіны мучыцца. Але ўсе прашэнні застаюцца без рэха. У 1972 годзе Ажыннік быў электрыфікаваны. Здавалася б, цяпер няма ніякіх перашкод, каб абсталяваць пры калодзежы электрычны рухавік і даць людзям вады ўдосталь, але неяк беластоцкае прадпрыемства „Эльвод“ не можа заняцца ўсур'ёз гэтай справай. А гэта ж яго прамы абавязак — несці дапамогу людзям і аблягчаць працу на зямлі!

(мг)

# АБЫ ЗА ПЛОТ...

Да нядаўна сакольская зямля не была багата прамысловымі прадпрыемствамі ды заводамі, дзе маглі б зарабіць грош тамашнія людзі. Таму мясцовыя ўлады змагаліся за тое, каб на Сакольшчыне нешта пабудаваць, што звязвалася з так званай актывізацыяй асяроддзя. Дабіліся свайго ў сямідзесятыя гады. У Саколцы пабудавалі вялікі завод будаўнічай сталяркі, амаль гатовы ўжо — „Спомаш“.

Сёння зоймемся іншым заводам Сакольшчыны, намнога меншых размераў, чым „Стольбуд“ ці „Спомаш“. Праўда, не мае ён кадравых цяжкасцей, але...

Беластоцкае прадпрыемства будаўніцтва лёгкай прамысловасці пабудавала свой завод у Рацэве ў лістападзе 1971 года. Вырабляе ён будаўнічыя элементы для патрэб прадпрыемства, а работнікамі яго з'яўляюцца людзі з навакольных вёсак.

Праз нейкі час пачынаюць толькі непакоіцца гаспадары Казімір Берка, Вацлаў Шчэсюль і Эдвард Лісоўскі. На іх лугі завод вылівае прадукцыйную ваду і забруджвае ёю луг, каровы не хочуць есці травы, няма чым іх паіць.

Гаспадары пачынаюць шукаць справядлівасці ў павятовых улад. Начальнік Сакольскага павету накіроўвае дырэктару Беластоцкага прадпрыемства будаўніцтва лёгкай прамысловасці ў Беластоку пісьмо ад 10 верасня 1973 г. № IV-096(16)73, у якім на аснове лакальнай візіі „сцвярджае **карыгоднае** занядбанне ў эксплуатацыі ачышчальні сцёкаў, адсутнасць водна-праўнага дазволу на пабіранне вады з калодзежа і адвядзенне сцёкаў, а таксама затапленне загаспадараных лугоў“.

Аднак багатае прадпрыемства, кіраўніцтва якога мае сваё месцазнаходжанне ў адлеглым Беластоку, відаць, не разумее, што павінна ўладкаваць гэтыя справы. Проста не адказвае на закіды. Вада з завода надалей залівае лугі гаспадароў, робячы іх бескарыснымі. У павеце раяць ім, што адзінай дарогай да справядлівасці застаецца суд. Бездапаможныя, накіроўваюць яны справу ў суд у Саколцы.

Судовая павестка падзейнічала, быццам бы крынічная вада. Дырэкцыя БПБПЛ накіравала ў суд пісьмо, у якім пратэстуе супраць унесенай гаспадарамі скаргі. У судовых актах гучыць гэта так: „Прадпрыемства апратэстоўвае скаргу гаспадароў таму, што дакументацыя на пабудову завода прадбачвала адвядзенне прадукцыйнай вады на адлегласць 10 метраў за агароджу завода ў напрамку меліярацыйнага рову. У сувязі з гэтым прадпрыемства не можа адказваць за атрыманы з гэтай прычыны шкоды, паколькі ў абавязку інвестара было апрацаваць уласцівую дакументацыю на адвядзенне сцёкаў“.

Суд быў іншай думкі. На аснове дакладных доказаў спецыялістаў і дакументаў, засудзілі ад прадпрыемства на карысць гаспадароў больш 5 тыс. зл.

Рэпарцёрская цікаўнасць завяла нас на месца, да гаспадароў. Пяць тысяч злотых ад прадпрыемства раздзелена між гаспадарамі. Прадукцыйная вада надалей цячэ на лугі гаспадароў. Няма тут і не было ніколі меліярацыйнага рову, дык вада разліваецца па лугах. Прадукцыя на заводзе ідзе нармальна і дырэкцыя прыкрываецца „дакументацыяй“, але што з гэтага гаспадарам Берку, Лісоўскаму і Шчэсюлю? Яны таксама адказныя за прадукцыю малака і мяса, але не маюць сваёй „дырэкцыі“, будуць, бадай, судзіцца надалей.

Аказваецца, што пабудова завода — гэта не толькі актывізацыя асяроддзя, але і клопаты. Можна сцярпець, калі яна мае аб'ектыўны характар, але нельга згадзіцца з тым, што вялікае прадпрыемства не толькі занядбоўвае абавязкі, але забываецца аб усім тым, што з'яўляецца яго святым абавязкам.

**А. Карпюк**
фота аўтара


*Казімір Берка: „...а нам гаспадарам зноў прыйдзецца судзіцца“.*

(Працяг са стар. 2)

# ВЫЗВАЛЕННЕ МІНСКА

ным болем ляглі на нашы сэрцы, выклікаючы нязвыклы жаль па загінуўшых і ў той жа час нястрымную нянавісць да ворага. Цяпер ужо нічога не змагло ўстрымаць нашых воінаў. У другой палавіне дня быў поўнасцю вызвалены Мінск і на пастуменце помніка В. І. Леніну, што ля Дома ўрада, а пасля і на самім будынку развяваліся чырвоныя сцягі. На другі дзень з паўднёвага ўсходу Мінска было цалкам замкнута кальцо акружэння 110-тысячнай групы войск 4-ай нямецкай арміі.

Як толькі мы ўступілі ў Мінск, нам здавалася, што горад мёртвы. Але так толькі здавалася. Варта было прарвацца нашым першым танкам наперад, як ззаду іх — з руін, падвалаў, хібарак — выбягалі змучаныя няволяй людзі; яны, не баючыся агню, са слязамі кідаліся да нашых воінаў, выказваючы гэтым сваю радасць, ловячы рукі воінаў, абдымаючы і цалуючы сваіх вызваліцеляў.

Асабліва цяжка было нам, воінам-мінчанам, пераносіць гэту радасць стомленых няволяй людзей і бачыць родны горад, што ляжаў у руінах.

Хто як хто, а мы добра памяталі даваенны Мінск. У 1940 годзе ў Мінску было пабудавана каля 70 буйных прамысловых прадпрыемстваў, якія давалі ў 40 раз больш прадукцыі, чым уся прамысловасць горада ў 1913 годзе.

Мінчане ў той час, як і ўвесь савецкі народ, былі задаволены сваім жыццём. У выхадныя дні яны адпачывалі ў парках і скверах, у прыгарадных зонах, а вечарам — у тэатрах і кіно, дзеці вучыліся ў школах і вышэйшых навуковых установах. Савецкі народ быў заняты мірнай стваральнай працай. І раптам вайна — гітлераўская Германія вераломна напала на Савецкі Саюз.

Мінск адным з першых быў падвергнуты жорсткай авіяцыйнай бамбардзіроўцы. За два дні ворагам было разбурана і спалена ў горадзе ўсё, што было створана працай людзей. З 332 прадпрыемстваў уцалела толькі 19 і каля 20 працэнтаў жылога фонду.

І вось тады, гледзячы на гэтыя разбурэнні, нам здавалася, што на аднаўленне Мінска патрэбна будзе цэлае стагоддзе. Але на нашу радасць, усё гэта адбылося намнога раней.

Камуністычныя партыі і ўрад Беларусі звярнуліся да народу і заклікалі яго ў кароткі тэрмін аднавіць сталіцу. І мінчане на другі ж дзень, узброіўшыся ломамі і лапатамі, тысячамі выйшлі на расчыстку руін. У той жа час будаўнікі Беларусі, з дапамогай архітэктараў Масквы, узяліся за распрацоўку генеральнага плана будаўніцтва новага Мінска.

З братняй дапамогай працоўных іншых саюзных рэспублік горад хутка аднаўляўся. За кароткі гістарычны перыяд на папялішчах і руінах старога Мінска адрадзіўся зусім новы, вялікі, прыгожы, з больш чым мільённым насельніцтвам горад. Цяпер мінчан, ды і ўсіх прыезжых, цешаць прыгожыя плошчы, шырокія, абсаджаныя ліпамі і каштанамі праспекты, цудоўныя ансамблі будынкаў, палацы культуры, тэатры, магазіны, кавярні і рэстараны.

Сёння прадпрыемствы Мінска даюць каля адной трэці прамысловай прадукцыі рэспублікі, а многія яе важнейшыя віды займаюць значнае месца ў агульнасаюзнай вытворчасці. Аўтамабілі з эмблемай зубра, трактары „Беларусь“, металарэзныя станкі, электронна-вылічальныя машыны, часы, тэлевізары, радыёпрыёмнікі і іншыя вырабы з мінскай маркай карыстаюцца добрай славай у Савецкай краіне і за рубяжом.

У сталіцы Беларусі — 110 навуковых устаноў, якія аб'ядноўваюць 18 тысяч супрацоўнікаў. Праца інстытутаў Акадэміі навук БССР і іншых навукова-даследчых устаноў Мінска вядзецца ў самых розных галінах навукі і тэхнікі. Вялікую ролю ў жыцці горада адыгрываюць шматлікія ўстановы культуры, арганізацыі творчых работнікаў, вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы, шырокая сетка прадпрыемстваў гандлю, бытавога абслугоўвання насельніцтва, дзесяткі медыцынскіх устаноў.

І ў дзень вызвалення Мінска ад фашысцкай тыраніі, хочацца на ўвесь голас крыкнуць: няхай заўсёды будзе мір і дружба паміж народамі!

**Мікалай Аляксееў**
генерал-маёр інжынерных войск у адстаўцы, удзельнік вызвалення Мінска, пісьменнік.



## Як я сына ў сярэднюю школу кіраваў

Заходзіць да нас аднойчы, ведаеце, Нінка Круціха. Кума мая, значыцца.

— Ну й што вы думаеце з сынам далей рабіць? — пытаецца.

А Юрка наш і яе Марыся ў гэтым годзе якраз пачатковую школу канчаюць.

— Бо я, — кажа, — сваю вырашыла ў гандлёвы тэхнікум накіраваць. Прыяцельніца мая, што ў тым тэхнікуме прыбіральшчыцаю працуе, добрае слова замовіць. Ды і нараілі мне адпаведнага чалавека. Ён тут адной знаёмай з Пасынак у прошлым годзе дачку ўстроіць памагаў. Дамо пару тысяч, і ўсё будзе добра.

— А гэта навошта?

— А што вы, — кажа яна, — не з гэтага свету? Жыцця не ведаеце? Дзе вы бачылі, каб някормленая кабыла воз пацягнула? Сёння без добрага знаёмства ў сярэднюю школу не ўлезеш! На кожнае месца ахвотнікаў некалькі.

— Ну і што? Юрка наш заўсёды на пяцёркі здае, дык і цяпер здасць.

— Экзамены ён можа і здаць. Чаму не. Хлапец здольны. А не прымуць па поваду браку месц. Цяпер у іх усюды адгаворка такая.

Адным словам, напалохала нас баба. Юрка было хацеў у беларускі ліцэй, што ў Бельску, старацца. Дзе там аднак тыя знаёмствы возьмеш? Невядома з кім выпіць, ні з кім закусіць. У Беластоку ўжо зручней. Як бы не было, а таго-сяго ведаеш. Прадамо парсюка або кароўку. Быў бы грош, будзе каму і ўзяць. Ну й людзі — не свінні. Хто бярэ — падкажуць.

Кажам Юрцы, каб паміж беластоцкімі школамі выбіраў. А дзе там. Падавай яму беларускі ліцэй. А ўжо Гандзя мая, як тая квактуха, раскудахталася.

— А Юрачку ратуй. А нічога не шкадуй. А дзецятка гэта ж наша беднен.кае недаацэняць, спіхнуць у старану.

— Добрае, — кажу, — дзецятка. Нараз буханку хлеба ды кілаграм каўбасы ўвапрэ. Толькі давай. За мяне ўжо вышэйшы.

Хто аднак бабу калі пераканаў?! Хлапцу зараз вусы расці пачнуць, а яна б яму ўсё цыцку тыкала. Ды і самому таксама па-рознаму думаецца. Разумнейшыя ж, кажуць, за мяне людзі ўзяткі даюць. Нейкіх крывых сцежак-дарожак сваім дзецям шукаюць.

А Юрцы тым часам начхаць на нашы клопаты. Як залезе раніцай з кніжкамі ў сад, да вечара дахаты не вернецца. Гэта ён да экзаменаў рыхтуецца. Гандзя ўсё туды і бегае. То з параным малачком, то з супікам якім. Катлетку якуюсьці нясе. Ці пеўнічка зварыць. Вядома, баба... Ну, думаю, калі сам шалапут сваёю будучыняю не цікавішся, толькі кніжкі бачыш, не буду і я мазгоў марочыць, знаёмстваў нейкіх вышукоўваючы. Рабі, як ведаеш.

І падумайце толькі, людзі добрыя. Прынялі абоўтуса гэтага і ў ліцэй і ў інтэрнат нават. Здаў, кажуць, вельмі добра па ўсіх прадметах.

Учора ізноў Нінка Круціха забягала. Марыся яе ў гэтым годзе ў тэхнікум не паступіла. Прасіла памагчы дачку хоць у наступным годзе ўстроіць. Параіць, як кум куме. Што, колькі і каму.

— Да Юркі нашага ідзі, — кажу, — папытайся. Ён хоць, як і ўвесь наш род, Няўдалы, у гэтых справах аднак амаль прафесар.

**Ларс**

У час майскіх сустрэч нашых журналістаў з чытачамі ў многіх мясцовасцях людзі скардзіліся: „Ніва" просіць, каб да яе пісаць, але не кажа, на якой мове. Па-беларуску, бывае, чалавеку цяжка пісаць, ці не ўмее ён". Іншы раз людзі проста пытаюцца: „На якой мове можна ў „Ніву" пісаць?"

Сёння рэдакцыя хоча адказаць на такія пытанні. **Пісаць у „Ніву" можна на**

## ЯК ПІСАЦЬ У „НІВУ"

**розных мовах: беларускай, польскай, рускай, украінскай і на сваёй мясцовай, як каму выгадней.**

Найлепш для рэдакцыі і найлягчэй друкаваць інфармацыі і артыкулы, напісаныя па-беларуску, хоць бы і не вельмі літаратурна. Таму просім усіх, хто як-небудзь умее выражаць свае думкі па-беларуску, пісаць у „Ніву" на гэтай мове.

Рэдакцыя вельмі ахвотна будзе прымаць лісты, напісаныя сваёй мясцовай гаворкай, бо вядома, што мясцовыя гаворкі на Беласточчыне з'яўляюцца дыялектамі беларускай мовы.

Звяртаемся яшчэ раз да нашых карэспандэнтаў і чытачоў: пішыце пра розныя справы, якія дзеюцца вакол вас, пра людзей; пішыце пра добрыя і дрэнныя з'явы. Пішыце, як умееце. Чакаем.

**„Ніва"**



НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

**ФУТБАЛІСТКІ З КЛЕПАЧОЎ**

Футбольная каманда дзяўчат з Клепачоў Беластоцкага павету вядомая ў сваёй акрузе. Яна сыграла некалькі матчаў з мясцовымі дзявочымі камандамі і з футбалісткамі з Супрасля.

Футбалісткі з Клепачоў выступаюць у складзе: Анна Аляксіцкая, Марыя Філончук, Ванда Клім, Малгажата Адамская (капітан каманды), Барбара Башэнь, Эльжбета Бязубік, Тэрэса Мікульская і Анна Занеўская.

**Фота Я. Цялушэцкага**

**У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ**

## БАЛКОНЫ



Балконы бываюць месцам адпачынку на свежым паветры або... выключна кутком для захавання розных непатрэбных рэчаў, а ўзімку — халадзільнікам. Некаторыя гарадскія жыхары выходзяць на балкон толькі для таго, каб пакурыць, або проста, каб штосьці непатрэбнае выкінуць на вуліцу. Некаторыя жыхары кватэр у блоках, наводзячы парадак на балконах, смяцінкі і пыл змятаюць проста на галовы і балконы суседзяў, выкручваюць таксама там мокрыя сціркі, вешаюць сцякаючыя вадой хаднікі і дываны. Нічога тады дзіўнага, што пад такім балконам усе вокны брудныя.

Дзеці таксама маюць задавальненне, калі выходзяць на балкон. Выкідаюць на вуліцу мячыкі, ручнікі, або шлёпанцы.

А ўсім жа, бадай, вядома, што балконы і ложы — гэта неадлучная частка фасада і ад іх выгляду залежыць выгляд горада. Бяскарным застаецца, аднак, абязвечванне і збрыджванне горада, напрыклад, дзякуючы вывешванню на балконах інтымных частак гардэробу і сціраак, перахоўванню хламу і ўсялякага стар'я.

Самаўпраўленне жыхароў і блокавыя адміністрацыйныя ўлады павінны сказаць у гэтай справе самы важкі голас. Балконы не павінны адстрашваць, а павінны быць уквечаныя, эстэтычныя, каб радавалі вока, а не парушалі правіл грамадскага сужыцця.

Гэтак упрыгожваюць балконы ў Васількове Беластоцкага павету.

**Тэкст і фота Я. Цялушэцкага**

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

**АНАТОЛЬ ЛЯЎШУК**

Анатоль Ляўшук з вёскі Юшкаў Груд Беластоцкага павету з'яўляецца прыкладным гаспадаром. Вядзе 15-гектаравую гаспадарку. Больш пяці гектараў зямельных угоддзяў абсявае ён жытам. Ураджаі збожжавых культур складаюць у яго ў сярэднім па 23 цэнтнеры з 1 гектара. Ячменю „Грыф" сабраў больш як па 35 цэнтнераў.

Анатоль Ляўшук кантрактуе 3,5 га жыта і прадае яго дзяржаве больш 3200 кілаграмаў. Добра родзіць у яго таксама грэчка і бульба. Калі гаварыць аб жывёлагадоўлі, дык перадавы гаспадар з Шымкаўскай гміны гадуе ў асноўным кароў. Мае іх трынаццаць, у тым ліку шэсць пароды „нцб". Павелічэнню гадоўлі кароў спрыяла меліярацыя сенажацяў на аб'екце „Руднік". Пасля яе значна павысіліся накосы траў. Апрача таго, Анатоль Ляўшук мае ўзорнае пасбішча і „электрычнага пастуха", механізуе працу пры дапамозе ўласных сельскагаспадарчых машын.

Анатоль Ляўшук выконвае рад грамадскіх функцый. Ужо дванаццаты год з'яўляецца ён солтысам, сем год выконвае абавязкі старшыні мясцовага сельгасгуртка, які цяпер належыць да кааператыва сельскагаспадарчых гурткоў у Міхалове.

Асабліва многа часу прысвяціў ён грамадскай працы, будучы солтысам.

Анатоль Ляўшук узнагароджан Сярэбраным Крыжам Заслугі і адзнакай „Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі".

**Тэкст і фота Я. Цялушэцкага**



## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

**ВЯСНЯНКА**

*Пуод яліною, пуод зэлёною*
*Сівы конь над водою.*
*Шчэ й горша журба — дiевчына моя*
*Нэ говорыт зо мною.*
*Шчэ й горша журба — дiевчына моя*
*Нэ говорыт зо мно(ю).*
*До міеста пуойду, чэрвічкі куплю,*
*Стану ei просіті —*
*Ой, чы нэ стане сэрцэ-дiевчына*
*Зо мною говорыті?*
*Ой, чы нэ стане сэрцэ-дiевчына*
*Зо мною говоры(ті)?*

*Чэрвічкі біерэ, мне нэ декуе,*
*Зо мною нэ говорыт.*
*Ой, знаю, знаю тую дівчыну,*
*Што вжэ іншуй подмовів,*
*Ой, знаю, знаю тую дiевчыну*
*Што вжэ іншуй подмо(вів).*
*Іншы нэ іншы — Ясё наймільшы,*
*Вон ei подмовляе.*
*Ой, дала б ёму подаруночок —*
*З дробной рутки звівшы.*
*Ой, дала б ёму подаруночок —*
*З дробной рутки звівшы.*

Ад Анны Крупіч, 1912 г. нараджэння, вёска Дабрывада Гайнаўскага павету, запісаў 27 лютага 1974 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

Гэта песня спявалася вясною паміж праваднoй нядзеляй і сенакосам. Мелодыя, як у папярэдняй „Вяснянцы".

## Музей у Гайнаўцы

Музей рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы быў адкрыты ранняй вясной 1972 г. Да канца таго ж года наведала музей 6.942 асобы, у тым 5.489 асоб школьнай моладзі.

Цікавыя экспанаты атрымаў музей ад жыхароў горада і навакольных вёсак. Школьная моладзь сабрала таксама многа экспанатаў.

Гайнаўскі музей наведаў пасол Савецкага Саюза ў Польшчы Станіслаў Пілатовіч, дэлегацыі з СССР, ГДР і ветэраны з усёй краіны. Кіраўніком музея з'яўляецца зараз Валянціна Буйноўская. Музей добра падрыхтаваны да турыстычнага сезона. Кіраўнік музея прымае экскурсіі і расказвае ім пра Гайнаўскую зямлю, пра перыяд узнікнення і фарміравання народнай улады на гэтай тэрыторыі.

У гэтым годзе ўжо ў другой палавіне мая наведала гайнаўскі музей каля 400 асоб. У музеі пабывалі ўжо таксама замежныя экскурсанты. Хто яшчэ не быў, няхай прыедзе, ёсць што паглядзець.

**Ружа**

